# Тыднёвік Магілёўскі

Тыднёвік Магілёўскі

№ 5 (146) 1 – 7 лютага 2002 г. Кошт 100 руб.

## У нас заўсёды марудна запрагалі...






Фота IREX

*Гэтымі днямі ўсе ведамствы вобласьці падводзяць вынікі гаспадараньня і сацыяльнага разьвіцьця за мінулы год. Ува многіх паседжаньнях з гэтай нагоды прымаюць удзел засяроджаныя міністры і пасланцы Адміністрацыі краіны, якія працягваюць гаварыць "пра аб'ектыўныя цяжкасьці, пошук рэзэрваў на месцах, неабходнасьць падвышэньня дысцыпліны" і, нават, найбольш сьмелыя зь іх – пра асобныя посьпехі.*

*Аднак прысутныя на нарадах кіраўнікі, а тым больш іхныя падначаленыя, што засталіся "на гаспадарцы" у цэхах, на палях і фэрмах, ва ўстановах мэдыцыны, адукацыі і культуры, на будоўлях – усе дакладна ведаюць, што практычна ніводная галіна жыцьця ня можа пахваліцца сёньня станоўчымі здабыткамі.*

*Так, калі казаць шчыра, было на працягу ўсіх папярэдніх гадоў прэзыдэнцкага праўленьня. Цягам гэтага часу вобласьць цярпліва верыла абяцаньням і збольшага захоўвала грамадзкі спакой. Аднак, па ўсяму відаць, гэты пэрыяд "сацыяльнага міру" заканчваецца, калі нават настаўнікі – ідэалягічнае апірышча існуючай улады – пачалі падаваць свой пратэстны голас. На сярэдзіну лютага, напрыклад, настаўнікі Магілёўскага раёну замовілі пікет супраць нявыплаты заробку, бо апошнім разам яны бачылі жывыя грошы ў мінулым годзе. Такое ж становішча ў іншых раёнах, але іхныя пэдагогі пакуль задаволіліся ўдзелам у рэспубліканскай акцыі пратэсту галіновага прафсаюзу. У сераду да Дому саветаў у Магілёве прыйшлі будаўнікі. Найбольш пакутлівая частка грамадзтва – вяскоўцы – не пратэстуюць толькі з прычыны распачатага гэтак званага "рэфармаваньня" калгасаў і неабходнасьці рыхтавацца да пасяўной...*

*Адметна, што не апраўдаліся спадзяваньні ўлады на тое, што ўдасца адцягнуць увагу грамадзкасьці ад рэальнага стану жыцьця праз ужываньне некаторых, як лічаць адказныя палітолягі, адмыслова распрацаваных мераў. Сюды адносяцца гучныя арышты, візыты дзяржаўных дэлегацыяў у экзатычныя краіны (Лібія, Кітай, Ірак), а таксама частыя прыезды расейскіх губэрнатараў з "прапановамі аб добрых намерах", бо ўсе яны прадстаўляюць найбольш слабыя ў эканамічным пляне расейскія рэгіёны. Сюды ж можна аднесьці нетактоўныя, каб не сказаць больш рэзка, дзяржаўныя жэсты ў кірунку эўрапейскіх суседзяў, і асабліва – Злучаных Штатаў Амэрыкі, што вядзе да самаізаляцыі Беларусі, то бок – да пабудовы зь ейнага боку "жалезнай заслоны" перад Захадам. За такой заслонай, як засьведчыў савецкі досьвед, лягчэй змагацца з апазыцыяй, правамі чалавека, свабодай слова і народным незадавальненьнем...*

*Аднак час для паўтарэньня гэтага досьведу мінуў. Здаецца, што беларускае Грамадзтва паціху гуртуецца і сталее. Ня столькі, можа, з высілкаў дэмакратычных палітыкаў, апазыцыйных газэтаў і дзеячоў недзяржаўнага сэктару, колькі з рэальнасьцяў штодзённага жыцьця.*

*А жыцьцё такім робіць сам рэжым. Здаецца, менавіта гэта й пачынаюць разумець людзі. Дадаць бы сюды разуменьне нацыянальных інтарэсаў, і беларуская фурманка пабегла б да волі, дэмакратыі і дабрабыту значна шпарчэй...*

**Генадзь СУДНІК**

<u>У дадатак да тэмы</u>. Замову на пратэстны пікет магілёўскіх сельскіх настаўнікаў, пра які ўзгадвалася вышэй, падаў выкладчык Буйніцкай сярэдняй школы Андрусь Кавалёў. Адлаведна зробленая папера была перададзеная ім у райвыканкам у аўторак, блізу 15-ай гадзіны. А ў сераду раніцай на ягоны ўрок біялёгіі нечакана зьявілася завуч школы "з праверкай". Яна патлумачыла сваю прысутнасьць распараджэньнем дырэктаркі школы спн.Бушляковай, якой у сваю чаргу патэлефанавалі з выканкаму, дзе былі "вельмі незадаволеныя" ініцыятывай настаўніка Кавалёва. У яго ж дырэктарка настойліва высьвятляла прозьвішчы тых 15-ці чалавек, якія пазначаныя ў заяўцы на пікет у якасьці ўдзельнікаў. Пры гэтым яна імкнулася націснуць на "патрыятычныя" пачуцьці настаўніка, бо паведаміла яму, што калі ён ня будзе супрацоўнічаць з адміністрацыяй школы і раённай управай адукацыі, уся школа будзе прыдзірліва і пастаянна правярацца...

Магчыма, як бачым, што ў сваіх аптымістычных высновах наконт "масавага абуджэньня сьвядомасьці" аўтар крыху пасьпяшаўся. Хаця, зь іншага боку, гаворка ідзе ўсяго толькі пра палахлівую дырэктарку школы (у нас і дырэктары заводаў маўчаць, хаця за імі ўжо адкрыта "прыходзяць"). А што тычыцца шараговых настаўнікаў, дык яны праявілі шчырую і добразычлівую цікавасьць да заяўкі на пікет і да таго, што адбываецца цяпер вакол іхнага калегі.

## Будаўнікі выйшлі на плошчу

***Каля двух дзясяткаў рабочых Магілёўскага будаўнічага трэсту №12 арганізавана прыйшлі ў сераду да Дому саветаў, дзе месьціцца аблвыканкам, каб патрабаваць заробленых за два апошнія месяцы, але ня выплачаных грошай.***

Сярод пікетоўцаў былі так званыя "масквічы", якіх падманулі падчас працы ў расейскай сталіцы (пра што мы неаднаразова паведамлялі). Былі й тыя, хто прыйшоў сюды ад імя многіх рабочых, каго падманвае ўласнае начальства ці хутчэй – дзяржава.

Чакаць начальства давялося з паўгадзіны. Да рабочых нетаропка і ня вельмі ахвотна выйшаў Міхаіл Красноў, які зь нядаўняга часу на пасадзе намесьніка старшыні аблвыканкаму курыруе пытаньні будаўнічай галіны. Размаўляў высокапастаўлены чыноўнік зь людзьмі ня надта ветліва, лёгка адбіваючы ўсе іхныя прэтэнзіі. За высокія кошты тавараў і прадуктаў у нашай краіне, на якія паскардзіліся рабочыя, адказвае не выканкам, а ўрад. Мала грошай людзі атрымліваюць таму, што мала зарабляюць. І нарэшце, свае грошы вытворчым працоўным трэба "выбіваць" не ў аблвыканкаму, а ў сваіх арганізацыях, бо клопат выканкаму – бюджэт і бюджэтнікі...

Пікетоўшчыкі з свайго боку папярэдзілі М.Краснова, што трэст кіне працу, калі ня будуць прынятыя тэрміновыя меры па паляпшэньні адносінаў да людзей.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## ШТО НА ТЫДНІ... У БЯЛЫНЫЧАХ



***Райвыканкам прыняў рашэньне аб тым, што функцыі мэдвыцьвярэзьніка будзе выконваць аддзяленьне патрульна-паставой службы.***

Вядома, што гэтае аддзяленьне мае удвая менш супрацоўнікаў, чым было да расфармаваньня ў выцьвярэзьніку. Але час такі – усюды скарачэньне. Толькі парушальнікаў парадку гэта ня тычыцца, бо іхная колькасьць павялічваецца, як тое гаворыцца, проста на вачах.

***Нягледзячы на неаднаразовыя падвышэньні закупачнага кошту малака і мяса, у раёне заўважна скарацілася вытворчасьць гэтай прадукцыі.***

Цяпер калгасы ў параўнаньні зь леташнім годам прадаюць дзяржаве менш мяса ажно на 67%, а малака – на 13%. А вось продаж прадукцыі з уласных двароў практычна ня зьменшыўся. Пры ўсіх сваіх цяжкасьцях у вядзеньні гаспадаркі ўласьнікі забясьпечваюць трэціну агульнага аб'ёму сельгаснарыхтовак. І ня толькі таму, што атрыманьне грошай за прадукцыю – гэта ці не адзіная крыніца іхных даходаў. Папросту прыватнае гаспадараньне на зямлі сапраўды лепшае за калгасна-калектыўнае.

***За апошнія некалькі год больш за 10 мясцовых сіротаў школьнага ўзросту выехалі ў новыя сем'і ў Бэльгію, Італію і ЗША.***

Гэтымі днямі абласны суд разгледзеў яшчэ адну падобную амэрыканскую просьбу. Гаворка ішла пра 9-гадовую выхаванку спэцінтэрнату, якая ніколі ня ведала сваіх бацькоў, бо яны былі пазбаўленыя бацькоўскіх правоў праз месяц пасьля яе нараджэньня. Амэрыканская сям'я даведалася пра горкі лёс дзяўчынкі ў часе аздараўленчай паездкі групы бялыніцкіх дзяцей у ЗША. Усяго ж у інтэрнаце цяпер выхоўваецца больш за 300 дзяцей рознага ўзросту, якія ня маюць альбо назаўсёды згубілі свае родныя сем'і.

***Калегі і вяскоўцы цёпла праводзілі на пэнсію Цімафея Ціхановіча, загадчыка мясцовага клюбу ў Заазер'і.***

Амаль 25 год ён ня толькі загадваў "ачагом культуры", але сапраўды зрабіў яго такім. У клюбе шмат гадоў ладзіў свае выступы фальклёрны самадзейны ансамбаль, які старанна й трапятко зьбіраў лепшыя ўзоры старажытных і адносна нядаўніх народных сьпеваў, якія былі папулярнымі менавіта ў Заазер'і. На вечарыне з нагоды шанаваньня Цімафея Ціхановіча гэты самы ансамбаль разам з гасьцямі з суседніх вёсак даў цудоўны канцэрт.

**Базыль ЛІЦЬВІНОВІЧ**



## Свой погляд на тыдзень вобласьці

**У абласным афіцыёзе "Магілёўскія ведамасьці" зьвярнуў на сябе ўвагу артыкул пра тое, як аблвыканкам правёў нараду ў Чэрыкаве. Цяпер па ініцыятыве старшыні выканкаму Барыса Батуры раз на месяц выканкам будзе засядаць у якім-небудзь раёне. Напярэдадні яго будзе наведваць дэсант з розных інструктараў, якія падрыхтуюць неабходныя для паседжаньня даведкі і праекты пастановаў. Такім чынам улада са сваіх утульных кабінэтаў выходзіць у народ. Як паглядзіш на гэта, міжволі падумаеш: нашто толькі не ідзе начальства, каб хоць неяк прымусіць рэгіёны працаваць. А трэба было б усяго толькі зрабіць тое, што й павінна рабіць улада – разам з грамадзтвам (партыямі, прафсаюзамі, апазыцыяй, навукай) – даць таму ж грамадзтву зразумелыя правілы жыцьця, заснаваныя, вядома ж, на дэмакратычных традыцыях. А гэта, на жаль, не па сілах. Вось і даводзіцца вынаходзіць "новыя формы працы".**

Цалкам магчыма, што пасьля сыстэмы аховы здароўя палітру платных паслугаў пачне пашыраць і народная адукацыя. Пра гэта паведаміў начальнік абласнога ўпраўленьня адукацыі Валеры Багданаў, які паскардзіўся на недастатковае забесьпячэньне галіны зь бюджэту. Спадзеву на паляпшэньне няма ніякага. Вось школам і давядзецца зарабляць самім. Няясна толькі, як гэта будуць яны рабіць.

**Супрацоўнікі Шклоўскай вэтэрынарнай лябараторыі зьвярнуліся да ўлады з адкрытым лістом. Яны скардзяцца на ўмовы сваёй працы. Лябараторыя ня мае даху, не ацяпляецца, хімічных рэактываў не хапае, супрацоўнікам ужо 2 гады не мянялі спэцадзеньне. Ня дзіва, што час ад часу на нас абвальваюцца інфэкцыі і хваробы.**

Непадалёк ад Клічава, уздоўж рэчкі Ольса, ствараецца дэндралягічны парк. Ён будзе па-свойму ўнікальны. На плошчы ў 10 гектараў будуць разьмешчаныя звыш 260 дрэваў і расьлінаў беларускай флоры, у тым ліку – рэдкі, занесеныя ў Чырвоную Кнігу краіны. Мяркуецца, што гэты парк адкрыецца ў 2004 годзе. Мясцовыя жыхары спадзяюцца, што дэндрапарк прыцягне турыстаў, а гэта дасьць сродкі, якіх у раёне не хапае ні на што. Хаця, як бачым, клічаўцы сьмела замахнуліся на дарагі і складаны праект.

**Магілёўскія ўлады вырашылі ўстанавіць у кватэрах, дзе жывуць адзінокія пэнсіянэры, аўтаматычныя папераджальнікі пажару. Ужо ўсталяваныя 85 апаратаў. Яны, гэтыя папераджальнікі, рэагуюць на павышаную задымленасьць памяшканьня і адразу сыгналяць аб гэтым. Засталося дадаць, што сапраўды найбольш часта ўзгараюцца кватэры адзінокіх старых людзей.**

Кожнае трэцяе злачынства ў вобласьці ажыцьцяўляецца нецьвярозымі людзьмі. Паводле вынікаў мінулага году, прыведзеных на калегіі абласнога ўпраўленьня ўнутраных справаў, па рэгіёну ўсяго зафіксавана звыш 16 тыс. парушэньняў заканадаўства. Трэцяя частка злачынстваў засталася нераскрытай. Нямалую частку сумнай міліцэйскай статыстыкі складаюць напады на людзей, іншым разам беспадстаўныя, аднак злыя.

*Свой погляд на падзеі тыдня прэзэнтаваў Сымон Глазштэйн.*

## Стратэгія пакуль намацваецца

***23-га студзеня тры дзясяткі актывістаў, якія рэпрэзэнтуюць усе пярвічныя суполкі гарадзкой арганізацыі БНФ (В.Вячоркі), дыскутавалі пра пэрспэктывы ды стратэгію свайго руху пасьля прэзыдэнцкіх выбараў.***

Старшыня абласной структуры Анатоль Фёдараў заявіў, што перамога Лукашэнкі сталася магчымай толькі дзякуючы моцнай падтрымцы Расеі, якая цяпер ужо адкрыта дыктуе Беларусі жорсткія ўмовы гульні й без камуфляжу праводзіць эканамічную і палітычную анэксію нашай краіны. Сёньняшнюю дзейнасьць дэмакратычнай апазыцыі А.Фёдараў назваў канфармісцкай і пасыўнай тактыкай. У якасьці прыкладу ён падаў намер дэмакратаў удзельнічаць у выбарах у мясцовыя саветы і нават у так званы "саюзны парлямэнт".

Прагучалі на сходзе й іншыя меркаваньні. У прыватнасьці, аб тым, што трэба выкарыстаць выбары ў якасьці рэклямы, аднак самім у іх ня ўдзельнічаць. Таксама было заяўлена, што да выбараў у мясцовыя саветы яшчэ паўтары гады, і трэба прыкласьці намаганьні, каб за гэты час дамагчыся зьменаў у самое выбарчае заканадаўства.

Што тычыцца прэзыдэнцкіх выбараў, то аўдыторыя была аднадушная ў тым, што апазыцыя дарма спадзявалася на намэнклятурны рэсурс. На сходзе таксама было зазначана, што сёньняшнія лідэры апазыцыі – гэта былыя паслугачы рэжыму, і таму ён іх лёгка перамагае (а вось "сьвежае крыві" няма). Акрэсьленая стратэгія далейшай дзейнасьці арганізацыі будзе вызначаная на абласной канфэрэнцыі БНФ, якая адбудзецца 17-га лютага.

**Алесь ДАЙНЕКА**

## ШТО НА ТЫДНІ... У АСІПОВІЧАХ І ШКЛОВЕ



***Новапаўсталая ў раёне Кардынацыйная рада дэмакратычнага руху, старшынём якой абраны Альберт Яўменаў, падрыхтавала зварот да мясцовай улады з патрабаваньнем спыніць перасьлед актывістаў грамадзка-палітычнага руху.***

Сапраўды, праблема гэтая ў раёне ці ня горшая ў вобласьці. Практычна тут няма грамадзкіх суполак, якія б прайшлі рэгістрацыю і працавалі б легітымна. Выканкам і падначаленыя яму службы пільна адсочваюць і нецярпіма ставяцца да праяўленьня любой несанкцыянаванай актыўнасьці.

***Ліквідавалі калгас "Асіповіцкі", пагасіўшы ўсе ягоныя запазычанасьці.***

Уласнасьць гаспадаркі і ейных людзей раздалі па іншых калгасах і арганізацыях. Яшчэ даволі прыстойная калгасная кантора дасталася леспрамгасу, які задаволены нечаканым падарункам.

**Рыгор ЛАТЫШЭВІЧ**



***Адбылося судовае паседжаньне па адміністратыўнай справе супраць рэдактара незарэгістраванай мясцовай газэты "Шклоўскія навіны" Аляксандра Шчарбака.***

Ягоныя непрыемнасьці абвастрыліся падчас прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі, калі ня толькі газэта, але й непасрэдна сам А.Шчарбак праводзіў актыўную мабілізацыйную кампанію на баку апазыцыйнага кандыдата. Аднак выбары рэдактар і выданьне перажылі. Затое адразу пасьля іх распачалася гаворка нават пра магчымасьць узбуджэньня крымінальнай справы супраць А.Шчарбака. А скончылася ўсё на гэтым тыдні аштрафаваньнем рэдактара (які ёсьць, дарэчы, беспрацоўным) на 10 мінімальных заробкаў і канфіскацыяй кампутара, на якім ён набіраў свае "крамольныя" тэксты. Вольны журналіст і вольны чалавек Аляксандар Шчарбак пасьля выроку суда заявіў, што ён знойдзе магчымасьць, каб ягоныя папулярныя ў раёне "Шклоўскія навіны" па-ранейшаму не давалі спакойна спаць мясцоваму чынавенству.

**А.ГРУШАВЫ**

## Увесь час на розных мовах

***У Камітэце навукі, культуры і адукацыі Парлямэнцкай Асамблеі Рады Эўропы адбыліся слуханьні па пытаньні беларускіх СМІ.***

У іх бралі ўдзел пяць незалежных беларускіх журналістаў і старшыня БАЖ Жана Ліцьвіна, а таксама міністар інфармацыі РБ Міхаіл Падгайны. Прадстаўнікі БАЖу распавялі пра закрыцьцё гарадзенскай газэты "Пагоня" і рэлігійнай радыёпраграмы "Голас душы", пра крымінальныя справы супраць газэтаў. Яны вылучылі некалькі істотных патрабаваньняў да беларускіх уладаў, якія былі падтрыманыя прадстаўнікамі Рады Эўропы. Сярод іх – патрабаваньне грамадзкага абмеркаваньня новага закону аб СМІ, дэманапалізацыя тэлевізіі й радыё, стварэньне роўных умоваў для дзяржаўных і недзяржаўных выданьняў.

Міністар Падгайны заявіў, што "сёньня мы імкнемся наблізіць сваё заканадаўства да эўрапейскіх стандартаў". Ён, у прыватнасьці, паведаміў, што другі нацыянальны тэлеканал будзе акцыянэрным, і што БТ рыхтуе адмысловую сэрыю перадачаў, у якіх выступяць апазыцыйныя палітыкі. Апошняя заява вельмі зьдзівіла старшыню Камітэту ПАРЭ ў справах культуры, навукі і адукацыі Луі-Мары Пуі, які зазначыў, што нідзе ў сьвеце міністар ня можа абяцаць зьменаў у тэлепраграмах, бо "вяшчаньне адбываецца без умяшаньня ўладаў"...

Таксама прадстаўнікі Рады Эўропы ўвогуле не ўспрынялі аргумэнтацыю прысутнага дэпутата "палаты прадстаўнікоў" Лосева, які заявіў аб тым, што ўлада ня можа дазволіць апазыцыянэрам выступаць на тэлевізіі "з прычыны іхнага непрызнаньня новай беларускай канстытуцыі".

**Валер КАЛІНОЎСКІ**

## Дарма дзівіцца замежнік

***Швайцарская газэта Basler Zeitung зьмясьціла артыкул "пра прамываньне мазгоў беларускаму народу праз беларускае дзяржаўнае тэлебачаньне".***

Аўтар матэрыялу Томас Розэр піша аб тым, што вобраз "бацькі народу" безьперапынна мільгае на тэлеэкране БТ. Ён зьяўляецца са строгім тварам на будоўлях, прысутнічае на парадах танкаў і сельскагаспадарчых машынаў, ветліва размаўляе з жанчынамі, гладзіць дзіцячыя галоўкі...

Пры гэтым Лукашэнка, паводле швайцарскага журналіста, гнеўна абураецца тымі, хто кажа пра ягоныя маніпуляцыі й фальсыфікацыі на апошніх прэзыдэнцкіх выбарах. Каб пераканаць насельніцтва ў сваёй перамозе, у кожным адміністрацыйным раёне Беларусі ён стварае цяпер групы інфармацыйна-ідэалягічнай падтрымкі дзяржаўнай палітыкі. "Гэтак ён зьбіраецца, – шчыра зьдзіўляецца аўтар артыкулу, – зрабіць свой народ сапраўды шчасьлівым".

**Алена ПАНКРАТАВА**

## ... А Масква вырашыла ня ўмешвацца

***Дзейны старшыня АБСЭ – міністар замежных справаў Партугаліі – ня лічыць прадуктыўным тое, што афіцыйны Менск зьвязвае зьмену мандату групы АБСЭ ў Беларусі з прызначэньнем яе новага кіраўніка.***

Падчас сустрэчы ў Лісабоне з сваім расейскім калегам Івановым, міністар замежных справаў Партугаліі Гама закранаў, як гэта й чакалася, "беларускае пытаньне". Аднак спадар Іваноў ня спраўдзіў надзеяў партугальца: ён адказаў у тым сэньсе, што Расея ня будзе вырашаць за Беларусь пытаньне прызначэньня кіраўніка місіі АБСЭ ў Менску.

Тым часам Лукашэнка даручыў свайму міністру замежных справаў Хвастову актывізаваць падрыхтоўку лютаўскага паседжаньня "Вышэйшай дзяржаўнай рады расейска-беларускай дзяржавы" – з мэтаю каардынацыі замежнай палітыкі. Міністар Хвастоў таксама паведаміў, што прадстаўніцтва РБ ў АБСЭ паставіла пытаньне пра ўдакладненьне мандату Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЭ ў Менску.

На сёньня, аднак, мандат місіі застаецца ранейшым. Прадстаўнік старшыні АБСЭ зазначыў, што калі беларускі ўрад зьвязвае дзьве рэчы – прызначэньне новага кіраўніка й пераабмеркаваньне мандату, – то "гэта не найбольш падыходзячы спосаб займацца пытаньнем".

**Юры СЬВІРКО**

## Зубры ў горадзе

***Сябры магілёўскай арганізацыі незарэгістраванага руху негвалтоўнага супраціву "Зубр" правялі на вуліцах абласнога цэнтру бліц-апытаньне.***

Цягам дзьвюх дзён яны апыталі блізу 100 чалавек рознага сацыяльнага статусу і ўзросту. "Зуброў" цікавіла тое, што найбольш хвалюе ды непакоіць людзей. У выніку апытаньня выявілася, што на першае месца людзі ставяць нізкі ўзровень заработнай платы, рэзкае падвышэньне тарыфаў на камунальныя паслугі, а таксама кепскае мэдычнае абслугоўваньне. Справядліва палічыўшы, што ўсё гэта зьяўляецца сьледзтвам сацыяльна-эканамічнай палітыкі цяперашніх уладаў краіны, сябры "Зубру" наладзілі 23-га студзеня два пікетаваньні ў цэнтры гораду.

Адно адбылося непадалёк ад драматычнага тэатру, а другое – ля дыягнастычнага цэнтру. У якасьці спосабу прыцягненьня ўвагі "зубры" скарысталі расьцяжку з надпісам: "Яны абяцалі годны ўзровень жыцьця, але зноў узьнялі кошты на жыльлё, транспарт, прадукты, а заробак застаўся ранейшым. Дзе справядлівасьць? Зноў будзем маўчаць? Зубр".

Мінакі, якіх заўсёды ў вышэйпамянёных месцах гораду шмат, зь вялізнай цікавасьцю і адабрэньнем ставіліся да пікетоўцаў. З праваахоўнымі органамі гэтым разам таксама канфліктаў не было.

**Алесь ДАЙНЕКА**

## У нас такое дзеіцца восьмы год...

***Праўленьне ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" занепакоенае разьвіцьцём падзеяў вакол расейскага канала ТВ-6. Прыпыненьне ягонага вяшчаньня мы ставім у адзін шэраг са зьменай кіраўніцтва тэлеканала НТВ увесну 2001г., закрыцьцём газэты "Сегодня", судовым вырокам журналісту Грыгорыю Пасько.***

Гэтыя падзеі нагадваюць нам сытуацыю ў Беларусі, дзе супрацьстаяньне уладаў і сродкаў масавай інфармацыі мае ўжо васьмігадовую гісторыю.

БАЖ пратэстуе супраць уціску свабоды слова ў Расеі й выказвае салідарнасьць з журналістамі, правы якіх на вольны распаўсюд інфармацыі і свабоду выказваньняў былі парушаныя.

*Паводле заявы праўленьня БАЖ*

Ад рэдакцыі. Да пратэсту супраць абмежаваньняў свабоды слова, дзе яны б не здараліся, свой голас далучае й "Тыднёвік".

## Не стае салідарнасьці

***Ці зможа ў цяперашніх умовах выжыць у Беларусі гэтак званы "трэці сэктар"? Гэта значыць – ці выжывуць арганізацыі, якія займаюцца без падтрымкі дзяржавы гуманітарнай, адукацыйнай, дабрачыннай ды іншай карыснай дзейнасьцю.***

***Гэтую тэму абмяркоўваюць старшыня Асамблеі няўрадавых арганізацыяў Алесь Бяляцкі, кіраўнік гомельскага грамадзкага аб'яднаньня "Грамадзянскія ініцыятывы" Віктар Карніенка і рэдактар гарадзенскай газэты "Пагоня" Мікола Маркевіч.***

**Бяляцкі:** Пачынаючы з чэрвеня мінулага году, фактычна спынілася рэгістрацыя грамадзкіх арганізацыяў. Чыноўнікі Міністэрства юстыцыі спасылаюцца на тое, што не працуе дзяржаўная камісія, якая мусіць зацьвярджаць вынікі разгляду дакумэнтацыі. Мы ж заўсёды казалі, што гэтая камісія – увогуле па-за Канстытуцыяй. У Асамблею няўрадавых арганізацыяў увесь час паступаюць тэлефанаваньні, звароты, просьбы ад арганізацыяў, якія хочуць легалізаваць сваю дзейнасьць адпаведна закону, аднак тое ім не дазваляецца. Добра вядома й бачна, што ўлады хочуць мець кішэнныя арганізацыі, карлікавыя палітычныя партыі, прыручаныя прафсаюзы. Між тым, усе нашы незалежныя грамадзкія арганізацыя былі ўтвораныя менавіта зьнізу. І ў гэтым – іхная каштоўнасьць.

**Карніенка:** У навейшай гісторыі краіны было некалькі этапаў барацьбы з грамадзкімі арганізацыямі. Першы этап – калі Лукашэнка захацеў сам гэтыя арганізацыі ўзначаліць. Аднак падмяніць грамадзкую актыўнасьць фікцыяй яму не ўдалося. Другі этап – калі пачалі зьмяняць заканадаўства, каб "законным" шляхам перамагчы трэці сэктар. Пасьля гэтых мераў сытуацыя значна пагоршылася. Трэці этап, цяперашні, – калі пачалася сапраўдная "вайна" супраць грамадзкіх арганізацыяў. На змаганьне з намі кінутыя міліцыя, КГБ, Камітэт фінансовых расьсьледаваньняў, падатковая інспэкцыя... Гэты этап, безумоўна, самы жорсткі.

**Маркевіч:** Недзяржаўная прэса сёньня мае адзіную магчымасьць выжыць – пашыраючы кантакты з сваімі чытачамі, ствараючы ўласнае кола сяброў, свайго роду лёбі, куды ўваходзілі б таксама іншыя недзяржаўныя арганізацыі. Бо фактычна зараз размова ідзе пра тое, што поўнае зьнішчэньне трэцяга сэктару – справа часу. Зь іншага боку, я абсалютна ўпэўнены, што калі будзе арганізаваны прыстойны, эфэктны й эфэктыўны супраціў рэжыму, то зьявіцца магчымасьць захаваць трэці сэктар. Перш за ўсё патрэбныя салідарнасьць і ўзаемная дапамога: матэрыяльная, маральная, фінансовая, арганізацыйная. Бяз гэтага нам ня выжыць.

*Генадзь КЕСЬНЕР*

## Калі ёсьць магчымасьць...

***У Горках напачатку тыдня знаходзіліся прадстаўнікі амэрыканскай праграмы Counterpart і Агенцтва міжнароднага развіцьця, якія знаёміліся зь недзяржаўным сэктарам раёну. Адбыліся сустрэчы зь лідэрамі дзеючых грамадзкіх ініцыятываў. Госьці таксама прынялі ўдзел у першым паседжаньні мясцовага прэсавага клюбу.***

Падчас гаворкі гаспадары шчыра казалі пра агульны неспрыяльны фон існаваньня недзяржаўнага грамадзкага сэктару. Разам з тым відавочнае сталеньне ў Горках ініцыятываў і грамадзкай самадзейнасьці вядзе да таго, што мясцовая ўлада праяўляе пэўную ўвагу і цікавасьць да аб'яднаньня зь імі высілкаў на карысьць пасьпяховага вырашэньня некаторых праблемаў, асабліва ў адукацыйнай, экалягічнай і гуманітарнай сфэрах. Аднак захапленьня тут няма, бо нядаўнія выбары засьведчылі поўную залежнасьць раённай улады ад афіцыйнага палітычнага настрою ў Менску. Падчас гэтай кампаніі, як нагадалі ўдзельнікі абедзьвюх сустрэчаў, многія актывісты пацярпелі за тое, што праводзілі мабілізацыйную кампанію і незалежнае назіраньне за выбарамі.

Калі ж няма рэпрэсіўных дзеяньняў з боку ўлады да цалкам законнай дзейнасьці грамадзкага сэктару, трэба, на думку старшыні мясцовай суполкі Асацыяцыі ўстойлівага разьвіцьця Ўладзімера Ярмоленкі, "ісьці насустрач уладзе, бо неабавязкова кожны чыноўнік – гэта апанэнт дэмакратычных намаганьняў грамадзтва".

*Уласная інфармацыя*



## ШТО НА ТЫДНІ... У ГОРКАХ І КЛІМАВІЧАХ



***Вельмі добрая навіна для маленькіх чытачоў: дзіцячая газэтка "Несьцерка" набыла падпісны індэкс.***

Ужо зь сёньняшняга дня дзеці будуць атрымоўваць сваю любімую газэтку па месцу жыхарства. Дарэчы, падпісны індэкс "Несьцеркі" 63672.

***Студэнты-першакурсьнікі сельгасакадэміі, якія не жывуць у інтэрнаце, былі моцна ўзрушаныя тым, што зь іхных стыпэндыяў вылічылі грошы за... інтэрнат.***

Атрымаць незаконна вылічаныя грошы, як вядома, складана і амаль немагчыма. Таму сьціплыя першакурсьнікі пашумяць у сваім коле ды сьціхнуць. Адміністрацыя ня можа даць рады ў выпраўленьні гэтай "памылкі", хоць яна паўтараецца ўжо некалькі месяцаў.

*Натальля КІРЫЕНКАВА*



***Мясцовая дабрачынная грамадзкая арганізацыя "Лайонс-клюб" аштрафаваная на 9,9 мільёнаў - рублёў.***

Гэта адбылося пасьля комплекснай праверкі яе фінансова-гаспадарчай дзейнасьці, якую ажыцьцявілі раённая Інспэкцыя Міністэрства па падатках і зборах і Крычаўскі міжраённы Камітэт дзяржаўнага кантролю. Адначасна клюбу было прадастаўленае права зьвярнуцца ў Камітэт дзяржкантролю з просьбай аб вызваленьні ад уплаты санкцыяў – у сувязі зь цяжкім фінансовым становішчам арганізацыі. Сапраўды: адкуль яно будзе іншым, калі ўсе паслугі аказваюцца людзям дабрачынна? Аднак дзьве салідныя праверачныя інстанцыі не пашкадавалі часу на выяўленьне таго, аб чым усе ведаюць і так.

*Андрэй КУЗЬМІН*

КУРАПАТЫ: АПОШНІЯ ЗЬВЕСТКІ

## Усё занатуе кніга

***Празь некалькі тыдняў выйдзе ў сьвет кніга пра Курапаты, у якой будзе адлюстраваная гісторыя нацыянальнага нэкропалю ад 1930-х да 2002-га году.***

Кнігу падрыхтавала рабочая група грамадзкай ініцыятывы ў абарону Курапатаў, якая займаецца навукова-практычнай дзейнасьцю. Узначальвае групу старшыня грамадзкага аб'яднаньня "Дыярыюш" Ларыса Андросік, а яе сябрамі зьяўляюцца навукоўцы Ігар Кузьняцоў, Алег Іоў, Мікола Крывальцэвіч і Вацлаў Арэшка. Тэксты ў кнізе будуць арыгінальнымі, бо раней яны нідзе не друкаваліся. Мяркуецца, што наклад выданьня будзе ня меншы за 500 асобнікаў.

Тым часам споўнілася чатыры месяцы, як валанцёры дзень і ноч нясуць вахту памяці ў Курапатах. Згуртаваньне беларусаў Канады выказала падзяку і падтрымку моладзевай варце ў іхнай барацьбе за народны мэмарыял. Моладзь у сваю чаргу дзякуе тым людзям, якія прыязджаюць ва ўрочышча, каб аказаць абаронцам матэрыяльную і маральную падтрымку.

... Цяпер, пасьля адлігі, Курапаты выглядаюць вельмі змрочна: наступствы "рэканструкцыі дарогі" даюцца ў знакі. Пясок, заваленыя крыжы, пад нагамі – куламесь. Па дарозе на курапацкі пагорак бачныя сьляды амонаўскіх машынаў, якія заязджаюць туды, каб паглядзець на лаўку Клінтана. Дарэчы, некаторыя амонаўскія зьмены пасьля размовы з маладымі патрыётамі пачалі хадзіць на пагорак пехам. Тым часам абаронцаў Курапатаў выклікалі ў лясьніцтва, каб папярэдзіць аб забароне рубіць дрэвы ў мэтах атрыманьня дроваў для ацяпленьня намёту. Гэта выклікала ў хлопцаў зьдзіўленьне, бо яны адпачатку карысталіся выключна ўжо паваленым лесам.

*Ганна СОУСЬ*



Фота IREX

## Звонку лепш бачна

***У офісе Магілёўскага праваабарончага цэнтру адбылася прэсавая канфэрэнцыя, прысьвечаная азнаямленьню журналістаў з папярэднімі вынікамі маніторынгу судоў.***

Назіраньне за судамі праваабаронцы распачалі яшчэ восеньню мінулага году. Мэта гэтай акцыі – выяўленьне найбольш характэрных парушэньняў заканадаўства і правілаў судовай вытворчасьці з тым, каб аказаць грамадзкі ўплыў на паляпшэньне працы судовай сыстэмы.

А паляпшаць ёсьць што, бо з 538-мі судовых паседжаньняў, на якіх прысутнічалі грамадзкія назіральнікі, розныя парушэньні былі зафіксаваныя ў 408-мі. Пра гэта журналістам паведаміў дырэктар МПЦ Сяргей Абадоўскі. Ён пракамэнтаваў найбольш распаўсюджаныя прыклады парушэньняў, што для прысутных журналістаў сталася яшчэ й своеасаблівым сэмінарам на тэму судовага заканадаўства.

Траціна ўсіх судовых паседжаньняў пачынаецца са значным спазьненьнем ад аб'яўленага часу. На паседжаньнях па грамадзянскіх справах судзьдзі вельмі часта не высьвятляюць прысутнасьці выкліканых удзельнікаў працэсу й не ўстанаўліваюць іхныя асобы. Суды зусім не зацікаўленыя ў адкрытасьці. Нават назіральнікам нярэдка даводзілася шмат часу даказваць сваё права на прысутнасьць у судзе. Многія вяршыцелі чалавечых лёсаў і праблемаў, як засьведчылі праваабаронцы, практычна не рыхтуюцца да паседжаньняў, асабліва па грамадзянскіх і адміністратыўных справах. Менавіта таму яны зь лёгкасьцю ідуць на неабгрунтаваныя адкладаньні і пераносы паседжаньняў, што абарочваецца незьлічонымі стратамі часу і нэрваў людзей, датычных да справы.

На прэсавай канфэрэнцыі прысутнічаў начальнік абласнога ўпраўленьня юстыцыі Аляксандар Маймусаў. Ён таксама зьвярнуўся да журналістаў і паведаміў, што за апошні час судовы корпус вобласьці абнавіўся амаль напалову. На ягоную думку, гэта – асноўная прычына многіх працэсуальных парушэньняў.

Маніторынг працягнецца яшчэ два месяцы, а пасьля сыстэматызацыі і апрацоўкі ўсіх матэрыялаў назіраньня будзе выдадзеная адпаведная кніга. У сувязі з гэтым намерам Сяргей Абадоўскі падкрэсьліў, што праваабаронцы такім чынам дадуць судзьдзям магчымасьць зірнуць на сябе звонку – з тым, каб выправіць найбольш распаўсюджаныя памылкі і парушэньні.

*Алесь ДАЙНЕКА*

**P.S.** На гэтым тыдні нечакана станоўча спаслаўся на МПЦ старшыня абласнога суду А.Ткачоў. Адбыўся гэты прэцэдэнт падчас абласной – выніковай за 2001г. – нарады судзьдзяў у прысутнасьці старшыні Вярхоўнага суду РБ. Сп.Ткачоў прызнаў, што прэтэнзіі праваабаронцаў абгрунтаваныя і адпавядаюць заканадаўству. Аднак гэтае прызнаньне адначасна сьведчыць і пра тое, што ***судзьдзі альбо ня ведаюць заканадаўства, альбо часта грэбуюць ім.***



## Так і трэба ірвацца да волі

Вядомы прыхільнік творчасьці Ўладзімера Высоцкага і перакладчык ягоных вершаў і песень на родную мову магілёўскі настаўнік Міхась Булавацкі ініцыяваў вечарыну памяці паэта, актора і барда, якая ў мінулую суботу прайшла ў офісе ГА "Кола сяброў".

Вечарына сабрала найперш настаўнікаў, выкладчыкаў і доктараў, што сталася ўскосным сьведчаньнем усё больш выразнай прыхільнасьці гэтых сацыяльных групаў грамадзтва да каштоўнасьцяў Волі, да якой усё жыцьцё ірваўся паэт на мяжы трываласьці "сил и сухожилий". Нешта сымбалічнае адчувалася і ў тым, што продкі Ў.Высоцкага паходзяць зь Беларусі.

На здымках ***Дзяніса Новікава*** адлюстраваныя некаторыя моманты вечарыны, што прайшла ў інтэлігентнай і кранальнай атмасфэры.



## Праз спрэчкі — да праўды

***Цягам месяца з ініцыятывы Грамадзянскага форуму ў Магілёве праходзілі традыцыйныя паседжаньні дэбат-клюбу.***

Гэтым разам яны былі прысьвечаныя 416-ым угодкам наданьня Магілёву прывілею на Магдэбурскія правы (28 студзеня 1586г.). Усяго было зладжана тры паседжаньні з тэматамі для абмеркаваньня "Ці можа жанчына быць лідэрам", "Цьвярозасьць – норма жыцьця", "Дзяржаўнасьць беларускае мовы, альбо двухмоўе". У абмеркаваньнях бралі ўдзел прадстаўнікі гарадзкога Маладога Фронту, арганізацыяў "Моладзь АГП", "Майстэрня будучыні", "Грамадзянскі форум", а таксама каманда моладзі Быхава.

Як вядома, паседжаньні дэбат-клюбу – гэта, перадусім, гульня. Дзьве каманды даводзяць журы пазыцыі "ураду" і "апазыцыі" па пэўнаму тэмату. Перамагае каманда, якая набрала большасьць галасоў прысутных. Зазвычай самая атмасфэра дыскусіі адсоўвае пытаньне вызначэньня пераможцы на другі плян, бо на першы выступаюць менавіта довады камандаў.

Паседжаньні дэбат-клюбу – шмат у чым паказальныя. Найперш таму, што дыскутуе моладзь, якая сфармавала свае погляды ўжо ў незалежнай Беларусі. Сутыкненьне поглядаў у часе дыскусіі агаляе існуючыя праблемы ў моладзевым асяродзьдзі. Большасьць выступоўцаў на паседжаньнях прамаўлялі хутчэй не ад каманды, але ад сябе, пераконваючы журы фактамі з уласнага жыцьця, іншым разам задужа эмацыйна.

Паказальна, што ўва ўсіх трох гульнях перамагла "апазыцыя"...

***Алесь АСІПЦОЎ***

## Віншуем сябра і калегу!

У менскім выдавецтве "Беларускі дом друку" выйшаў зборнік п'есаў бялыніцкага журналіста Міхася Карпечанкі. Гэтая прыемная падзея ў ягоным творчым жыцьці таксама закранае й "Тыднёвік", бо спадар Міхась – наш даўні і надзейны сябра.

Адпаведна прафэсіі ён штодня займаецца тым, што называецца актуальнымі праблемамі жыцьця. Затое ў сваіх драматургічных творах Міхась Карпечанка аднаўляе, абуджае і робіць нам блізкай самую Беларускую Гісторыю. Нездарма большасьць ягоных твораў пабачыла сьвятло рампы на сцэне магілёўскага Народнага тэатру Валянціна Ермаловіча.

Дарэчы, напачатку сакавіка ў абласным цэнтры мяркуецца адзначыць гадавіну з дня трагічнай гібелі брата Валянціна – беларускага гісторыка-патрыёта Міколы Ермаловіча. Народны тэатар у гэты дзень пакажа спэктакаль па п'есе М.Карпечанкі, якую аўтар адмыслова прысьвяціў навуковаму подзьвігу і жыцьцю гэтага выдатнага чалавека.

***Уласная інфармацыя***

## Лепш за многія падручнікі

***Паступіў у продаж чарговы нумар часопіса "Магілёўская даўніна" – недзяржаўнага выданьня мясцовых гісторыкаў, географаў, філёлягаў і краязнаўцаў.***

У нумары, які пазначаны 2001-ым годам, апублікаваныя вынікі апытаньня, праведзенага рэдакцыйнай радай часопіса сярод 88-мі спэцыялістаў вобласьці, прафэсійная ці аматарская дзейнасьць якіх зьвязаная з вывучэньнем гістарычнай літаратуры. Ім было прапанавана вызначыць лепшыя гістарычныя працы па гісторыі Магілёўшчыны ці напісаныя на яе тэрыторыі. Высьветлілася, што бясспрэчны лідэр тут – выдадзены ў 1882-84гг. пад рэдакцыяй А.Дэмбавецкага "Опыт описания Могилёвской губернии в исторических, этнографических, промышленных, сельскохозяйственных, лесных, учебных, медицинских и статистических отношениях".

Сярод найцікавейшых матэрыялаў "МД" гэтым разам хочацца адзначыць дасьледаваньне Алега Трусава "Антрапаморфныя выявы на магілёўскай і мсьціслаўскай кафлі", артыкул Тамары Аліок "Стараабрадцы Магілёўшчыны напярэдадні і пасьля далучэньня да Расейскай імпэрыі", а таксама дасьледаваньне Віктара Старасьценкі "Этнанімія беларусаў у XI-XVII стст.".




Матэрыялы шэрагу аўтараў (Аляксандра Фрыдмана, Аляксандра Агеева, Вольгі Марозавай, Барыса Сідарэнкі) прысьвечаныя асобе і дзейнасьці Мікалая Гартынскага, якога сучасьнікі называлі "маститым историографом могилёвским". Публікацыі Мікалая Барысенкі, Паўла Каралькова, Ігара Пушкіна, Сяргея Бяспанскага прысьвечаныя малавядомым фактам гісторыі Магілёўшчыны ў гады Другой Сусьветнай вайны.

У рубрыцы "Спадчына ў назвах" працягваецца публікацыя Географа-статыстычнага слоўніка вобласьці, складзенага Ігарам і Тацянай Шарухамі й Генадзем Рыдзеўскім. Да ўсяго ў часопісе знайшлося месца й матэрыялам па этнаграфіі, школьнаму краязнаўству, рэцэнзіям ды анатацыям.

Падсумоўваючы, можна сьцьвердзіць, што кожны чалавек, які займаецца альбо цікавіцца гісторыяй Магілёўшчыны, знойдзе ў новым нумары "Магілёўскай даўніны" карысную для сябе інфармацыю.

***Кася ІВАНОВА***

ВЫБАРЧЫ РОЗГАЛАС

## Небясьпечныя майкі пойдуць у даход дзяржавы?

***Старшыня пярвічнай арганізацыі Свабоднага прафсаюзу Беларускага на магілёўскім заводзе "Зеніт" Аляксандар Каралёў раней ня верыў у тое, што прадстаўнікі міліцыі самі здольныя на дзеяньні, якія можна характарызаваць як "прысваеньне чужой маёмасьці".***

Першы раз *(мы паведамлялі аб гэтай справе –"ТМ")* А.Каралёў расчараваўся ў міліцыянтах 27-га жніўня мінулага году, калі з заводзкай камэры захаваньня супрацоўнікі аддзяленьня міліцыі Цэнтральнага раёну Магілёва "прыватызавалі" 138 ягоных футболкаў. Прычым зрабілі гэта яны пры адсутнасьці гаспадара, без афармленьня пратаколу выняцьця, нават – безь ніякіх тлумачэньняў супрацоўнікам камэры захаваньня. Міліцыянэры толькі далі зразумець, што іх зацікавілі ня самыя тыя майкі, а надпіс на іх: "Скажы дурню – не!". На пытаньне, чаму яны лічаць гэты надпіс больш "крамольным" за шмат якія іншыя, што засмучаюць сваёй раскаванасьцю грамадзкую мараль, міліцыянты адказаць адмовіліся.

Тады ж А.Каралёў зьвярнуўся ў суд са скаргай на неправамоцныя дзеяньні міліцыянтаў. Старшыня Цэнтральнага раённага суду Галіна Кужалева, аднак, прызнала іхныя дзеяньні правамоцнымі. Тым ня менш, яна ж параіла Аляксандру афіцыйна запатрабаваць вяртаньня сваёй маёмасьці. Спадар Каралёў прыняў гэтую прапанову й падаў адпаведны грамадзянскі зыск.

Падчас разгляду справы 24-га студзеня – зноў пад старшынствам судзьдзі Г.Кужалевай – пяцёра сьведкаў, у тым ліку ўчастковы інспэктар, пацьвердзілі, што А.Каралёў безумоўна зьяўляецца ўласьнікам 138-мі футболкаў. Здавалася б, што задавальненьне ягонага зыску – справа зусім ясная. Тым ня менш, судзьдзя Кужалева палічыла йначай: яна адмовіла заяўніку ў вяртаньні вопраткі, але дазволіла яму забраць кайстру, у якой тыя майкі знаходзіліся...

А.Каралёў будзе абскарджваць рашэньне суду ў прадугледжаным законам парадку.

***Алесь ДАЙНЕКА***

## КНІЖНЫЯ НАВІНКІ

**Напрыканцы мінулага году зьявілася новая кніжная сэрыя – "Беларускі фальклёр: жанры, віды, паэтыка".**

Сэрыя заплянаваная на шэсьць тамоў. Першая кніга была прысьвечаная каляндарна-абрадавай паэзіі, другая выйшла рыхтык напярэдадні: яе тэма – сямейна-абрадавая паэзія й народны тэатар.

Сямейна-абрадавая паэзія найлепш захоўвае асновы дахрысьціянскага, паганскага сьветагляду нашага народу. Вуснапаэтычная творчасьць адыграла важную ролю ў фармаваньні этнасу, нацыянальнага мэнталітэту й самасьведамасьці беларусаў. Народная тэатральная творчасьць – найбольш яркая зьява ў сыстэме традыцыйнае мастацкае культуры. Народны тэатар быў выразьнікам інтарэсаў і поглядаў народу. Ён стаў гістарычным папярэднікам і перадумоваю прафэсійнага нацыянальнага тэатральнага мастацтва.

***RR***




## Хутчэй бы вясна

***Пад пагрозай закрыцьця апынуўся цэнтар мэдыка-сацыяльнай дапамогі Крычаўскага раённага таварыства Чырвонага Крыжа.***

Камунальныя службы толькі за адзін месяц ацяпляльнага сэзону выставілі цэнтру рахунак у 507 тысяч рублёў. Зараз цэнтар стаіць перад дылемай: альбо ў ім цалкам адключаць ацяпленьне, альбо трэба згарнуць працу па мэдыка-сацыяльнай дапамозе інвалідам, адзінокім і састарэлым.

***Андрэй КУЗЬМІН***

Рэдактар Генадзь СУДНІК




Аналітычна-інфармацыйная газэта. Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».

*Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.*

*Штотыднёвік*

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.

E-mail: krug@user.unibel.by

Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Сьпірыдона Собаля, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 5. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 31.01.2002 г. а 17.10